# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 13 (1048) ГОД XXI 28 САКАВІКА 1976 г. ЦАНА 60 гр.


## Пуцяводныя думкі

*Не сорамна і не шкодна не ведаць. Усяго ведаць ніхто не можа, а сорамна і шкодна прытварацца, што ведаеш, чаго не ведаеш.*

**Леў Талстой**

*Раскоша цела заключаецца ў здароўі, раскоша розуму — у ведах.*

**Фалес**

*Недастаткова авалодаць прамудрасцю, трэба таксама ўмець карыстацца ёю.*

**Цыцэрон**

*Дзейнасць — адзіны шлях да ведаў.*

**Б. Шоу**

*Была зіма.*
*Зімы няма.*
*А на душы —*
*старэчай тугі ледзяшы.*
*Маленькі раўчук —*
*дзіця сонца і снегу,*
*авалодваючы азбукай бегу,*
*на асфальце*
*пявуча*
*рукой свавольнай*
*першыя літары*
*піша,*
*як вучань*
*на дошцы школьнай...*
*Жэўжык,*
*які ў сумётах нямеў,*
*якога не чулі ўчора,*
*бач ты, як зашумеў:*
*падавай яму мора!*
*У рыжаватай імжы*
*струны наладжваюць капяжы.*
*Кроплі,*
*пакінуўшы родны карніз*
*і не хаваючы свой адчай,*
*ляцяць галовамі ўніз —*
*у ручай,*
*які, пасвавоціўшы трошку, —*
*годзе шумець дармова! —*
*на роўную выбег дарожку —*
*да мора.*
*І вось ужо ў ім,*
*як у басейне сваім,*
*купаецца сонца,*
*купаецца воблака,*
*купаецца вышыня.*
*Лёгка плёхкае цішыня.*
*Мару аб моры, ручай, калышы,*
*Хай спраўдзяцца ўсе*
*спадзяванні твае.*
*Старая туга, што асела ў душы,*
*Растае.*

**Пятрусь Макаль**

*Фота Я. Цялушэцкага.*

## КУЛЬТУРА РАБОЧЫХ, КУЛЬТУРА ДЛЯ РАБОЧЫХ

При новым адміністрацыйным падзеле краіны Гайнаўка з'яўляецца пасля Беластока самым буйным рабочым горадам Беластоцкага ваяводства.

І таму ваяводскія прафсаюзныя ўлады выбралі гэты горад, каб абмеркаваць шматлікія мерапрыемствы, якія з'яўляюцца састаўнымі часткамі **„Агляду культурнай актыўнасці працоўных“**.

Гаворачы болей зразумела, праблема ёсць такая: рабочыя ля сваіх станкоў кожны дзень даюць краіне вельмі патрэбныя вырабы, тавары, абсталяванне. І гэта іх асноўная роля, за гэта бяруць яны зарплату.

Не адзіным аднак хлебам корміцца рабочы. Духоўная страва яму таксама вельмі патрэбная. Які ж удзел рабочага класа Гайнаўкі ў культурнай актыўнасці свайго асяроддзя? У якой ступені ўдзельнічае ён у стварэнні культурных вартасцей?

Гайнаўскае рабочае асяроддзе вельмі своеасаблівае. У першых гадах існавання Гайнаўка прыцягвала да сябе беспрацоўных з усіх куткоў Польшчы надзеяй на добры і пастаянны заробак. Пасля вайны і па сённяшні дзень гайнаўскія прамысловыя прадпрыемствы і шматлікія ўстановы, як насосы, безупынку высасваюць з навакольных вёсак сотні працавітых сялян. На гарадскім бруку ўсё гэта перамешваецца і ў выніку ствараецца штосьці своеасаблівае, што ў культурным сэнсе не мае выразнага характару, бо гайнаўскаму рабочаму асяроддзю не хапае абжытых і даўно засвоеных культурных традыцый.

І таму з вялікай прыхільнасцю трэба прывітаць намаганні партыйных, маладзёжных і прафсаюзных арганізацый гайнаўскіх прамысловых прадпрыем-

**(Працяг на стар. 4)**

## VIII З'ЕЗД БГКТ — БАНК ДУМАК

## БГКТ і ГМІНА

Ліквідацыя паветаў і ўсіх павятовых устаноў, утварэнне гмін з шырокімі правамі ўдасканаліла дзейнасць дзяржаўнай адміністрацыі, дзейнасць партыйных і шматлікіх грамадскіх арганізацый, наблізіла ўладу да вёскі.

У сувязі з гэтымі агульнадзяржаўнымі адміністрацыйнымі зменамі наступяць змены ў арганізацыйнай структуры БГКТ. Аддзелы БГКТ, якія ў асноўным былі павятовымі праўленнямі, не будуць існаваць. Галоўнае праўленне будзе кантактавацца беспасрэдна з гурткамі. Гэты беспасрэдны кантакт будзе настолькі лепшы ад ранейшага, наколькі ГП БГКТ зможа абслужыць усе гурткі. Іх многа, і таму, бадай, прыдзецца абавязаць усіх членаў ГП (іх больш 40 чалавек), каб яны не менш як раз у тры месяцы бывалі ў нейкім гуртку і дапамагалі яму вырашаць тыя ці іншыя справы, звязаныя са статутовай працай, а таксама дапамагалі яму наладзіць кантакт з гмінай, якая можа аказаць маральную, а калі трэба, дык арганізацыйную і фінансавую дапамогу падчас арганізавання некаторых мерапрыемстваў.

Многія гурткі БГКТ маюць вопыт і традыцыю ў арганізаванні мастацкай самадзейнасці. А як вядома, кожная гміна імкнецца да таго, каб культурная дзейнасць развівалася ва ўсіх вёсках, асабліва ў тых, дзе цэнтрамі культуры з'яўляюцца клубы селяніна, клубы „Руху“, а таксама школьныя памяшканні. Нашым актывістам, якія знаходзяцца ў кожнай гміне, неабходна дабіцца таго, каб гміна на чале са сваім начальнікам цікавілася дзейнасцю гурткоў, каб разумела іх працу, каб яны як адно са звенняў Фронту адзінства народу, захоўваючы сваю мову, маглі выхоўваць людзей на добрых патрыётаў Народнай Польшчы.

Такое супрацоўніцтва ўжо нарадзілася ў гміне Нараўка. Там ужо здаўна гурткі БГКТ супольна з мясцовымі гміннымі ўладамі наладжваюць шмат цікавых мерапрыемстваў. Добрае супрацоўніцтва з гмінай, з сельскагаспадарчай службай, з гміннай спулдзельняй сельскагаспадарчых гурткоў і з ГС-амі можа мець мабілізуючы ўплыў на больш эфектыўнае развіццё сельскагаспадарчай вытворчасці членаў БГКТ. Культурная дзейнасць БГКТ спрыяе лепшай працы людзей ва ўсіх дзялянках. Добрая вечарына, добрая аўтарская сустрэча, вечар песні, вечар успамінаў ветэранаў рабочага руху, вайны ці змагароў за станаўленне народнай улады, выступленне харавога або драматычнага калектыву на нейкай урачыстасці — усё гэта мае выхаваўчы ўплыў на асяроддзе. Гэтыя мерапрыемствы людзям патрэбны, і таму супольна з гміннымі ўладамі і арганізацыямі можна рабіць вялікую справу. БГКТ-оўскія гурткі пры высокай інспіратарскай рабоце Галоўнага праўлення могуць быць патрэбнымі гміне, могуць добра развіваць культурна-асветную працу.

Цесны кантакт ГП з гмінай і вясковымі гурткамі БГКТ будзе дапамагаць вырашаць на месцы ўсе хвалюючыя справы статутовай дзейнасці.

Паколькі ў нашай беларускай арганізацыі нацыянальная форма праяўляецца пераважна ў роднай мове, пажаданым было б, каб апрача мерапрыемстваў, якія дагэтуль арганізоўваюць нашыя гурткі, арганізоўваліся вечарыны ці ўрачыстасці, прысвечаныя „Ніве“. Трэба, каб свята „Нівы“ знаходзілася ў праграмах культурнай дзейнасці гурткоў БГКТ. Традыцыйнымі ў БГКТ з'яўляюцца народныя фэстыны. Варта пашырыць іх на ўсе гміны, у якіх дзейнічаюць нашы гурткі БГКТ. А ў некаторых мясцовасцях іх нават шмат. Напрыклад, у гміне Нарва існуе іх 17. У гэтых гуртках ёсць самаахвярныя дзеячы, якім пад сілу было б справіцца з гэтым выхаваўчым і папулярным народным мерапрыемствам.

Усё залежыць ад нас, ад членаў БГКТ. Наша дзяржава стварае ўсе магчымасці, каб беларусы, калі яны хочуць, развівалі сваю мастацкую самадзейнасць, вывучалі сваю мову, прысвойвалі асноўныя элементы нацыянальнай культуры, шанавалі сваю культуру, сваю арганізацыю і свой часопіс „Ніву“. Якія будуць нашы адносіны да ўсяго гэтага — такія будуць нашы гурткі, такая наша арганізацыя.

**Міхась Хмялеўскі**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“

### „Чалавек з легенды“!

**УЖО ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ ПАЧНЕМ ДРУКАВАЦЬ „ЧАЛАВЕКА З ЛЕГЕНДЫ“. З ГЭТАЙ ДАКУМЕНТАЛЬНАЙ АПОВЕСЦІ ВЫ ДАВЕДАЕЦЕСЯ, ХТО БЫЎ АТАМАН МУХА-МІХАЛЬСКІ І ШМАТ ХВАЛЮЮЧЫХ ГІСТОРЫЙ З ЖЫЦЦЯ І ПОДЗВІГАЎ СЛАВУТАГА БЕЛАРУСКАГА ПАРТЫЗАНА.**

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-76



*Лаўрэат першай узнагароды ў катэгорыі сучаснай песні саліст Аляксандр Раманюк з Дубяжына.*

**Фота Я. Цялушэцкага.**

# З НАГОДЫ ЮБІЛЕЮ

У сувязі з юбілеем БГКТ і „Нівы“ 29 лютага 1976 года ў зале Галоўнага праўлення Украінскага грамадска-культурнага таварыства пры вул. Чэрнякоўскай у Варшаве адбыўся вечар, прысвечаны беларускаму літаратурнаму руху ў Народнай Польшчы. Але пакуль аб гэтым, абавязкова трэба сказаць, што з нагоды гэтай гадавіны рэдкалегія „Нашага слова“ на старонках свайго штомесячнага дадатку „Наша культура“ за люты 1976 г. змясціла даволі вялікі перакладзены на ўкраінскую мову артыкул Віктара Шведа „Беларускі літаратурны рух у Народнай Польшчы“. Апрача таго, былі змешчаны творы „белавежцаў“: А. Барскага, Я. Бурша, У. Гайдука, Я. Чыквіна, Л. Танкевіча, Д. Шатыловіча, В. Шведа і С. Яновіча.

Цяпер вернемся да вечара, які адкрыў кароткаю прамоваю намеснік галоўнага рэдактара „Нашага слова“ Міраслаў Вэрбовы. Потым голас забраў старшыня літаратурнага аб'яднання „Белавежа“ В. Швед. Выступіў ён з дакладам, у якім падсумаваў творчасць нашых пісьменнікаў і паказаў гісторыю беларускага літаратурнага руху ў Польшчы.



*Вершы чытае Віктар Швед* *Фота С. Грыгарчука*

Гляджу на перапоўненую залу, на якой знаходзяцца між іншымі др М. Балій — навуковы працаўнік украінскай філалогіі, А. Лапскі — украінскі паэт і працаўнік гэтай жа філалогіі, А. Сэрэдніцкі — галоўны рэдактар „Украінскага календара“. Зацікаўленне вялікае. Усе ўважліва слухаюць. Толькі час ад часу нехта ўстае і падыходзіць да століка, каб набыць зборнікі нашых паэтаў. Але вось прагучэлі апошнія словы дакладчыка. Аднак вечар ідзе. Гэта яшчэ не канец. Трэба ж і вершы паслухаць. Пачаткова чыталі па-беларуску. Першай выступіла наймалодшая з прымаўшых удзел Галя Туронак. Той, хто быў і слухаў, надоўга запамятае дэкламацыю гэтай дзяўчынкі. Гэта было так прыгожа, што і апісаць немагчыма. Яшчэ не закончыла, а ўжо пачалі апладзіраваць. Потым чыталі студэнты ўкраінскай філалогіі. А ў канцы выступіў В. Швед, які прачытаў рад сваіх новых вершаў.

Вечар памалу набліжаўся да канца. Закрыў яго альбом Кіева, які ўручыў В. Шведу ад імя УГКТ М. Вэрбовы.

**М. Шаховіч**

## Весткі з Беластока

# Подых Грузіі

Спытайце радавога беластаччаніна, і кожны амаль зможа вам нешта расказаць аб Мінску, аб Вільнюсе ці Кіеве, Маскве ці Ленінградзе. А ці многія з іх расказалі б вам аб Грузіі? Думаю, што не. Усё ж наш чалавек трапляе туды не часта. Далёка, хаця экзатычна і цікава.

Магчыма таму якраз на вечары, прысвечаныя Грузіі, цяжка ўбіцца. Адбылося іх ужо тры: першы — 14 лютага ў клубе настаўніка „Бакалаж“, другі — 22 лютага ў клубе гандлёўцаў „Гермес“, а трэці — 15 сакавіка ў клубе медыка „Снядэцыя“.

На сцэне выступаюць акцёры тэатра імя А. Вянгеркі: Барбара Лукашэўская, Дагны Розэ, Анджэй Кароляк, Яцэк Даманскі і Эўгеніуш Дзяконскі, якія дэкламуюць творы старажытных паэтаў Грузіі.

Але ўсё гэта прыдумаў, паставіў і арганізаваў якраз радавы беластоцкі лекар Вітальд Свідэрскі з бальніцы імя Снядэцкага, які ўсяго два разы бачыў Грузію. Гэты цёплы, дзіўны, пахучы край запаланіў яго. І Свідэрскі бярэцца за штудзіраванне гісторыі Грузіі, звычаяў яе жыхароў, яе культуры, вышукоўвае розныя кніжкі на гэту тэму.

Вынікамі гэтых пошукаў ён вырашыў падзяліцца з гледачамі ў 55-ую гадавіну станаўлення савецкай улады ў Грузіі. Першы вечар удаўся, пайшлі наступныя. І калі паміж дэкламацыямі акцёраў доктар Свідэрскі пачынае расказваць пра блакіт неба і зелень Грузіі, пра яе бурлівыя рэкі і гордых людзей, у думках міжволі пераносішся ў тую легендарную краіну, дзе, паводле легенды, прыкулі да скалы Праметэя.

Мне ўдалося пабываць на першым вечары. Льецца з магнетафона ціхая грузінская музыка, акцёры дэкламуюць вершы, Свідэрскі расказвае пра гісторыю Грузіі аж да сённяшніх дзён. На невялічкім экране з дыяпазітываў паказваюцца закуткі Тбілісі і старой сталіцы Мцхеты. На сталах — у збанах грузінскае віно, такімі ж збаночкамі, толькі меншымі, п'юць яго прыйшоўшыя госці. Віно можна закусіць спецыяльна выпечаным грузінскім хлебам „торніспуры“. Гарацць свечы. Паўмрок. Урачыста.

Пасля ганаровы госць, вядомы варшаўскі рэжысёр, грузін Канстанцін Цішвілі доўга расказвае пра сваю краіну і яе людзей. Пытанняў безліч.

Ніхто не хоча разыходзіцца. Усе перапоўнены цяплом Грузіі. І кожнаму хочацца калісьці пабываць у гэтай казачнай краіне.

У доктара Свідэрскага поўныя рукі работы: заказаў на вечар усё больш. Трэба ізноў рыхтавацца. Цяпер чакае клуб „Арсенал“. Трэба ізноў заказаць хлеб у пякарні на Артылерыйскай, закупіць віно, зрабіць дэкарацыю, выслаць запрашэнні. Выступіць...

**А. Чэчуга**

P.S. А ці не варта было б арганізаваць вечар, прысвечаны Грузіі, у святліцы БГКТ на Варшаўскай?

# СЭРЦАМ ЗАЎЖДЫ У БЕЛАВЕЖЫ

Даследуючы мінулае Белавежы і Белавежскай пушчы, я часта спатыкаўся з прозвішчам чалавека, якога хацелася ўбачыць, пагаварыць з ім. Яго незвычайная індывідуальнасць, вялікая любоў да пушчы зачароўвала мяне. Ды не толькі мяне. Зачараваліся і белавежскія экскурсаводы. Вось нядаўна старшыня гуртка мгр Эва Варвара Высмулэк пастанавіла адшукаць Рамана Ясінскага (бо пра яго гэта мова) і запрасіць у Белавежу. Далучыўся да гэтых пошукаў др інж. Чэслаў Аколуў, і такім чынам Р. Ясінскі ў палавіне лютага г.г., праз 36 гадоў адсутнасці, зноў дыхаў белавежскім паветрам. Наведаў старыя дарожкі, вітаў пушчу, а яна яго.

У адзін з марозных вечароў спаткаўся з экскурсаводамі і з усімі тымі, хто хацеў яго ўбачыць і паслухаць. Аповесць, якую мы пачулі, цяжка паўтарыць у некалькіх дзесятках сказаў.

Раман Ясінскі ў Белавежу прыехаў па закліку Яна Карпінскага, дырэктара Нацыянальнага парка. Працаваць пачаў ад 30 мая 1929 г. на пасадзе лясніцтва Парковэ, найважнейшай часткі парка. Як сам гаворыць, ніколі ў пушчы не быў служачым. Падыходзіў да яе заўжды з сэрцам, і сэрцам яна яму адплачвала. Цяжкія былі першыя гады ў жыцці парку.

— Спярша, — успамінае Ясінскі, — мы пастанавілі абгарадзіць гэты вялікі комплекс з боку белавежскай паляны. Ля ўваходу пабудавалі вароты, якія пратрымаліся да сённяшняга дня. Потым дырэктар Карпінскі пачаў ствараць першы белавежскі навуковы цэнтр.

Ясінскі тым часам заняўся абслугоўваннем гасцей, якія ехалі сюды з году ў год часцей. З часам пачаў славіцца як дасканалы экскурсавод. Яго апавяданні аб жыцці пушчы западалі людзям у памяць назаўсёды. Бачачы непрытворнае захапленне Белавежскай пушчай многіх людзей, ён меў маральны абавязак ахоўваць яе і ад іх імя. Нярэдка каштавала гэта многа здароўя. Вось, напрыклад, задумалася ў 1935 г. міністру справядлівасці Міхалоўскаму праехацца па запаведніку прыроды аўтамабілем. Ясінскі і іншыя востра гэтаму супрацівіліся. А каб даказаць, што пушча стаіць па-над усімі міністрамі і іх прыхацямі, пакаралі Міхалоўскага 50-злотавым штрафам (у тыя часы гэта было даволі многа), які сцягнулі судовым парадкам. Падобны выпадак быў з адным наменнікам ваяводы, якога давялося сілай выцягваць з аўтамашыны. У выніку гэтага Ясінскаму прыслалі звальненне з працы, але Карпінскі неяк выбараніў свайго супрацоўніка.

Быў Ясінскі сведкам многіх здарэнняў у гісторыі Белавежы. Пры ім пачалі вяртаць у пушчу зуброў і аднаўляць пароду ляснога коніка. Бачыў амаль усіх саноўнікаў, якія прыязджалі сюды на паляванні, між іншым, Ігната Масціцкага, Міклоша Горты, Германа Герынга, Гайнрыха Гімлера, Гайнрыха Мюлера. Часта даводзілася яму вадзіць іх па пушчы і музеі. Не думаў тады нават, што некаторыя стануць заўзятымі ворагамі яго і яго краю.

II сусветная вайна прыйшла ў Белавежу 1.IX.1939 г., хаця гітлераўцы паявіліся тут крыху пазней. Ясінскі ўстаў раніцай і пачаў галіцца. Будзільнік паказаў 5.20. Раптам у небе завылі самалёты і ў след за гэтым пасыпаліся бомбы. Адна ўпала на царкву, другая зваліла стары дуб ля царскага палаца, рэшта „знайшла“ сабе месца ў ваколіцы музея. Гэта быў падарунак ад Герынга. Прыйшлося пакідаць каханую пушчу 13.IX.1939 г. Разам з Ясінскім ідуць у невядомае Граб'я, Мруз і Скаўронскі.

(Працяг на стар. 4)

## ЛЮДЗІ БГКТ

# Люба Гаўрылюк

Калі яна выступае, усім здаецца, што песня лёгка і плаўна сама льецца з яе вуснаў. Толькі тыя з сябровак, што ўжо некалькі год разам з ёю ходзяць на заняткі вакальнага калектыву пры гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку, ведаюць, колькі сістэматычнай і старанная працы над кожнай мелодыяй, над кожным тактам крыецца за гэтай лёгкасцю і натуральнасцю спеву.

— Я вельмі люблю спяваць, — прызнаецца Л. Гаўрылюк. — І гэта не выпадкова. Паходжу я з вёскі Трасцянка, што каля Нарвы. Наш тата — гэта вядомы на ўсё сяло любіцель песень. Ці на вяселлі, ці на вечарыне ён заўсёды першы. І з маленства прывіў нам гэтую любоў да спеваў. Калі ідзем, бывала, ад жніва або ад капання бульбы, спяваем на ўсю ваколіцу. І нават ужо дома, пакуль зварыцца вячэра, спяваем. І вось так песня спадарожнічае мне ўсё жыццё. Люблю я песні рускія, польскія, украінскія, але найболей беларускія і мясцовыя, фальклорныя, яны мне найбліжэйшыя.

У мастацкай самадзейнасці Л. Гаўрылюк пачала ўдзельнічаць яшчэ ў трасцянскай пачатковай школе, спявала на розных школьных урачыстасцях, дзіцячых конкурсах. Потым, калі ўжо працавала бібліятэкарам у сваім сяле, уступіла ў самадзейны калектыў. Вёў яго спачатку настаўнік Ю. Панько, потым дырэктар школы Я. Тапалянскі. Калектыў працаваў у 1959-1962 гадах, у яго склад уваходзілі вакальная і тэатральная групы.

— Выступалі мы ў Трасцянцы і па наваколлі, — кажа Л. Гаўрылюк. — Ахвотна нас прымалі Сацы, Рыбалы, Іванкі, Клейнікі, Ласінка, Нарва. Спявалі мы з сястрой Геняй у дуэце, а таксама я сама. Вельмі прыемныя ўспаміны з таго часу: бывала, людзі са сцэны не хацелі пусціць...

Потым Л. Гаўрылюк выйшла замуж, выехала ў Беласток. Малыя дзеці і сямейныя абавязкі не дазвалялі ёй удзельнічаць у мастацкай самадзейнасці. Але вось у 1973 годзе яна зноў з'явілася ў беларускай мастацкай самадзейнасці ў горадзе Беластоку. І ўжо не сама, але разам з дачкою Аляй, сястрою Яўгіняй Астапчук і братам Мікалаем Мінько. Колькі было радасці ва ўсім гарадскім аддзеле, калі прыйшло ў яго вакальны калектыў папаўненне, ды яшчэ з якімі галасамі! У тым жа годзе на аглядзе ў аддзеле Л. Гаўрылюк і Я. Астапчук занялі ў дуэце першае месца, а на цэнтральным аглядзе — другое месца. Беластоцкі вакальна-музычны калектыў пачаў выязджаць на выступленні ў Кузніцу, Ялоўку, Літвінавічы, словам, па ўсёй Беласточчыне. На працягу 1974/75 гадоў ён даў 30 выступленняў. І ў кожным выступленні ўдзельнічала славутая чацвёрка. Заварожваюць слухачоў не толькі Люба Гаўрылюк і Яўгіння Астапчук, але і Аля Гаўрылюк. Яе багаты, моцны, пераліўчаты, бы сярэбраны званочак, галасок палоніць і запоўненыя залы і многалюдныя фэстыны БГКТ. Матуля, ўжо па сямейнай традыцыі, прывіла любоў да спеваў і сваёй дачцы. Цяпер Аля — вучаніца V класа пачатковай музычнай школы. І хоць яна мае шмат працы ў дзвюх школах, але без яе ўдзелу не абыходзіцца ніводнае выступленне беластоцкага вакальнага калектыву.



*Люба Гаўрылюк са сваёй дачкой Аляй.*

— Плануем мы заснаваць свой сямейны хор, — кажа Л. Гаўрылюк. — У яго хачу прыхіліць яшчэ некалькі сваіх родзічаў. Наш кіраўнік мгр Л. Панько напэўна паможа нам скласці цікавую праграму, падрыхтуе нас. Здаецца, што гэта ўзбагаціць наш беластоцкі вакальны калектыў. А наогул жа, заахвочваю да ўдзелу ў мастацкай самадзейнасці ў нас, у Беластоку на вуліцы Варшаўскай 11, і іншых беластаччан. Песня і танец — гэта ж цудоўнае мастацтва, колькі радасці і задавальнення прыносяць яны нам, самадзейнікам, і слухачам!

Апошні справаздачна-выбарны сход беластоцкага гарадскога аддзела БГКТ выбраў Любу Гаўрылюк у склад свайго праўлення і прэзідыума, а таксама выбраў у дэлегаты на VIII з'езд нашай арганізацыі.

**Ігнат Снарскі**
Фота аўтара




## Цырк на калёсах

Ну і цырк! Ха-ха-ха! Заграні́чныя не дакажуць. А гавораць, што на Беласточчыну рэдка ён прыязджае. Няпраўда, даражэнькія. Ад панядзелка да панядзелка заўсёды новая праграма. Сам на свае вочы бачыў, ды і не толькі цырк, але нават каскадэраў. За адных 16 злотых.

Вось аднойчы ў суботу выбраўся я ў Беласток (цягніком, зразумела). Купіўшы ў касе білет, іду на перон бельскага вакзала. Народу аж кішма кішыць. Тры цягнікі амаль у адзін час адыходзяць. Але гэта не бяда. Найважнейшае, што чакаць доўга не трэба. Пяць хвілін да ад'езду — гэта ерунда. І толькі я сабе так падумаў, як прахрыпелі гучнагаварыцелі: „Увага! Увага! Цягнік з Белавежы ў Беласток спозніцца прыблізна на сорак мінут".

— Вось табе і ерунда. Тут ужо і вялікае ерундзішча выходзіць, — падумаў я ўголас.

— Не перамайся, дружочак, — загаварыў ззаду нехта суцяшальна. — Звычайная справа. Гэта яшчэ і так добра. Пабачыш, як назад будзеш вяртацца. Не такія цуды будуць яшчэ.

Цуды-цудамі, а на $9^{00}$ у Беласток ужо не паспею. Ну але што ж, не мая віна. Змарнаваў неяк тыя сорак мінут, ды выходжу ізноў на перон. І тут як не замітусяцца людзі! Малодшыя на хаду на падножкі скачуць, бабы крыкам бяруць. Піск, віск, як бы стада раз'юшаных звяроў выпусцілі. Чую, толькі гузікі сыплюцца. Ды чорт з гузікамі! Хаця б шапку не згубіць. Я яе ў руку — і давай таксама пхацца. А тут ужо і ад'езд падаюць. Улез неяк, дык стаць няма дзе. Адна нага на падлозе, а другая ледзь у нейкую карзіну не папала. Ужо можа б я яе і сунуў туды, ды ў час жанчына, якая стаяла перада мною, крыкнула, што там яйкі. Нічога, значыць, не зробіш. І так стаю на аднойназе, як бусел пасярэдзіне скошанага луга. Да самага Райска так ехаў. Там трошкі ўперад пасунуўся і то дзякуючы тым, што ўсядалі.

Ужо здавалася і добра. На дзвюх нагах стаю і да таго яшчэ галавой павярнуць можна. Ды не, зноў бяда. Калі адно добра, дык з другім не так. Шыбы ў акне не хапала. Калі цягнік стаяў, то гэтага не адчувалася, але як толькі крануўся, дык вецер давай выконваць свой абавязак. І то проста ў вуха пачаў шпарыць. Бяда, думаю. Надзьме моцна. Давай я вуха пальцам затыкаць. Заткнуць то заткнуў, але ўжо і рука самлела, ды паварушыцца няма як: столькі людзей на чарговых прыпынках давалі́ла. А тут ужо і нос пасінеў, як у п'яніцы. Вядома, дзьме. Ды, на шчасце, да Беластока ўжо блізка было. Але гэта яшчэ толькі палавіна. Яшчэ ж назад трэба вярнуцца.

— Хутчэй бы аформіць справы і на $13^{57}$ паспець, — гавару сабе. Можа тады такой таўкатні не будзе.

Уладзіў усё як трэба і накіраваўся на вакзал. Толькі ўвайшоў на чацвёрты перон — і аж вочы на лоб палезлі. Людзей, як мух каля мёду, і ўсе чагосьці бегаюць то ўзад, то ўперад. А некаторыя нават у вокны вагона лезуць, толькі ногі ў паветры матахляюцца. Здурэлі ці што.

Ці мо некага забілі і злачынцу ў вагоне ловяць? Нічога не магу скумэкаць. Давай бліжэй дзвярэй праціскацца. Улезці ж трэба. Ды дзе там! Дзвярэй вогуле не відаць. Там дзе яны павінны быць, быццам бы вінаградныя кісці, схапіўшы адзін аднаго за плечы і нагу сунуўшы на падножку, людзі вісяць. Я да другіх кінуўся. І там тое самае. Тады я яшчэ далей. Ужо і да самага паравоза праціснуўся. А там — ах, мамачкі! Дзе толькі можна нагу паставіць і ёсць за што рукою схапіцца, усюды стаяць. Дзе ж тут паедзеш! Напэўна яшчэ некалькі вагонаў дачэпяць. Так жа ж немагчыма і небяспечна. Але дзе там. Ад'езд падаюць. Сам кіраўнік да машыніста праз вакно з свайго купэ рукою махае. Паехалі. І тады я толькі ўбачыў, што яшчэ на буферах апошняга вагона два вольныя месцы засталіся. Але чамусьці ніхто на іх не пакваліўся.

Ну і што, ці ж не цырк гэта? Ці ж не выступленне каскадэраў? Ды ўсяго за 16 злотых!

І што сабе думае кіраўніцтва беластоцкага чыгуначнага вузла? Гэта быў толькі адзін з многіх прыкладаў, у якім паказана толькі кропелька таго, што дзеецца на гэтым шляху. Ці ж нельга даць больш вагонаў, асабліва ў тых гадзінах, калі людзі едуць і вяртаюцца з працы, або ў суботу, калі са школ дадому едзе многа моладзі? Удзень жа ходзяць цягнікі пустыя. Або можа ўвесці новыя разрады білетаў, напрыклад: стоячыя, вісячыя і г.д. А што ж са спазненнямі, якія бываюць амаль штодзённым? Ну, а вагоны-халадзільнікі, да якіх не толькі што не даходзіць цяпло, але яшчэ і шыб не хапае? А гэтыя лаўкі, на якіх ад бруду аж клеіцца? Усё пытанні ды пытанні, а які будзе адказ?

**Міхась Шаховіч**

(Працяг са стар. 3)

## Сэрцам заўжды ў Белавежы

Пачаліся доўгія гады бадзяння. Дзе толькі не быў белавежскі ляснічы! Ваяваў у Бельгіі, Францыі, ля Табрука. Праследаваў на пустыні Нэфуд капітана Шмідта — ад'ютанта Гімлера, затым Гітлера. 4 гады хадзіў па афрыканскім бушу і пустынях. Неаднойчы вырываўся разам з салдатамі ў аазісы, каб паслухаць спеў родных салаўёў. І заўжды думаў аб сваёй пушчы. Шмат часу вандраваў па Індыі. Бачыўся з каралём Непала. Ваенныя дні прынеслі вялікі ўрон яго здароўю. Быў 5 разоў цяжка паранены. Гітлераўцы выбілі яму сківі́цы і паднябенне. Два разы прыгаварвалі да смерці. Доўга лячыўся ў Лазане. Затым лячыўся цэлы год у тыбетанскіх манахаў. Манастыр, дзе ён жыў, знаходзіўся на вышыні 4 тыс. метраў н.у.м. Вучобу ў вышэйшай навучальнай установе закончыў у Швейцарыі, у Цурыху.

Прыйшлося яму ў жыцці наведаць яшчэ і астравы Акеаніі, Ямайку, Сан-Дамінга, Канаду. Працаваў у славутым парку Елёўстоўн (ЗША). І нідзе не знайшоў ён прыгажэйшых лясоў, чым белавежскія.

У Польшчу вярнуўся пасля 20-гадовага побыту заграніцай. Доўгі час працаваў дырэктарам Айцоўскага нацыянальнага парку, затым ахвяраваўся на працу ў лясным гадавальніцтве. Зараз яму 70 гадоў, ды ён на пенсію ўвогуле не думае ісці.

Раман Ясінскі з'яўляецца аўтарам некалькіх кніжак. Яшчэ да вайны выдаў цікавую пазіцыю „Ля кастра". Пасляваенныя творы — гэта ўспаміны яго багатага жыцця. Гады вайны адлюстраваны ў кніжцы „Верасень пад Альпамі". Мілы аўтару перыяд працы ў Белавежы прадставіў у „Песні пушчы" (кніжка з'яўляецца сапраўднай скарбніцай ведаў пра пушчу і яе жыццё перад II сусветнай вайной). Нядаўна выдана новая кніжка Ясінскага „Акрыленыя". Яна ўмомант знікла з кнігарняў. Сам аўтар не мог яе атрымаць нават у выдавецтве. Прадбачваецца ўжо наступнае выданне. У „Акрыленых" гаворыцца пра перыяд, праведзены аўтарам сярод тыбетанскіх манахаў. Цяпер Ясінскі апрацоўвае ўспаміны аб барацьбе ў паўночнай Еўропе.

Вось такая, у вялікім скарачэнні, гісторыя жыцця чалавека, якому Белавежская пушча даражэйшая за ўсё. Дырэктар Белавежскага нацыянальнага парка запрасіў інж. Рамана Ясінскага наведаць пушчу летам. Ён напэўна прыедзе і яшчэ многа, многа пра яе раскажа. Дык да пабачэння!

**Пётр Байко**

(Працяг са стар. 1)

## Культура рабочых, культура для рабочых

стваў, каб заахвоціць сваіх рабочых да ўдзелу ў культурнай дзейнасці, да карыстання з дабрадзействаў культуры нашага часу, а нават больш — каб стварыць спрыяльныя ўмовы для выяўлення самародных талентаў, якіх заўсёды было і багата ёсць сярод рабочых.

Усе прамысловыя прадпрыемствы апрацавалі дзеля гэтага багатыя планы культурнай дзейнасці. Для прыкладу, на дрэваапрацоўчым камбінаце аб'явілі конкурс на найбольш задбанае месца працы, на найлепш упрыгожаны рабочы цэх. Рэчы гэта простыя, аднак важныя. Парадак спрые працы, павышае яе якасць. Парадак і прыгажосць, калі ідуць унагу, станоўча садзейнічаюць павышэнню добрых пачуццяў, бадзёрасці, а гэта, як рэха, як паваротная хваля зараз знаходзіць свой водгук у прадукцыі.

За добрую працу патрэбна ўзнагарода — і не толькі грашовая. Патрэбна грамадскае прызнанне. У „хімічнай" дзеля гэтага прыдумалі праклацці **„Алею ўдарнікаў"**. Мае быць гэта найпрыгажэйшае месца ў прыфабрычным парку, дзе ахвотна адпачывалі б рабочыя гэтага прадпрыемства, у якім умовы працы вельмі цяжкія. Гэту „Алею ўдарнікаў" упрыгожвалі б партрэты найлепшых рабочых.

А пасля працы, у свабодны час?

І тут прапановы вельмі розныя. Дрэваапрацоўчы камбінат аб'явіў для паасобных цэхаў конкурс на найлепш праведзеную свабодную суботу і нядзелю. Аднычасова прафсаюзная арганізацыя прадпрыемства наладзіла цеснае супрацоўніцтва з беластоцкім тэатрам, які паабяцаў два разы ў квартал даваць спектаклі ў прызаводскім Доме культуры для рабочых прадпрыемства, а раз у два месяцы гэтыя рабочыя ўласным аўтамабілем будуць калектыўна ездзіць у Беласток, каб пабываць у тэатры, каб сустрэцца з акцёрамі і рэжысёрам спектакля, каб супольна з імі пагаварыць аб асноўных вартасцях п'есы, якую яны глядзелі.

„Хімічная" ў сваю чаргу прапануе стварыць пры фінансавай дапамозе ўсіх гайнаўскіх прадпрыемстваў вялікі мастацкі самадзейны калектыў, у саставе якога было б чалавек 80. „Хімічная" мае шмат іншых цікавых прапаноў. Для прыкладу, у яе доме культуры „Гурнік" знайшоў для сябе месца **„клуб жывапісцаў-аматараў"**. Члены гэтага клуба, рабочыя розных гайнаўскіх прадпрыемстваў, ужо паказвалі свае працы на выстаўцы ў Доме настаўніка. Выстаўка карысталася вялікім поспехам...

На прыведзеных прыкладах культурная актыўнасць гайнаўскіх рабочых не канчаецца.

**Віктар Рудчык**
Фота К. Свідэрскага



*Электраманцёр Збігнеў Верэса ля сваіх палоцен.*




*Мікалай Леанчук з Каўпакоў купіў за 500 злотых буханак хлеба. Сцяміўшы, што пераплаціў, накінуўся на прадаўшчыцу. Але ў той былі сведкі: бачылі, як выдавала Мікалаю 492 злотых рэшты. Небарака два дні „гучаў" з буханкам пад пахай па ўсёй вёсцы: шукаў раскіданыя самім жа грошы. Быў на добрым газе.*

**Яраш**




## НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЦІШКА ГАРТНЫ — ЧАСТКА XIII

**Лірыка кахання.** Ва ўсёй дарэвалюцыйнай творчасці Гартнага знаходзім усяго некалькі твораў, якія можам залічыць да лірыкі кахання. Да твораў такіх можам залічыць наступныя вершы: „Хочацца мне", „Загудзі ты, вецер", „Дзяўчыне", „Не спявай", „Ноччу".

Верш „Хочацца мне" гэта быццам увертура да сімфоніі кахання. Паэт выяўляе тут розныя свае пажаданні. Усе яны, зрэшты, у канцы канцоў зводзяцца да аднаго, да пачуцця кахання. Аднак пачуццё гэта выяўлена алегарычна. Гартны карыстаецца паглыбленай іншасказальнасцю. Падкрэслівае эмацыянальную сувязь з рознымі праявамі рэчаіснасці. Пацвярджае вядомую праўду: закаханы чалавек любіць увесь свет.

*Хочацца мне кветкі свежае, пахучай;*
*Хочацца мне ласкі цёплае, пахучай;*
*Хочацца шырокай незмяранай волі,*
*І шчаслівай, рэзвай маладзецкай долі.*

Можна думаць, што верш гэты не з'яўляецца выразам кахання да канкрэтнай дзяўчыны. Варта залічыць яго да катэгорыі гімнаў у чэсць кахання ўвогуле. Сваім творам аўтар даводзіць, што каханне расшырае чалавечае сэрца, узбагачае і ўпрыгожвае яго. Другі верш з цыкла кахання мае больш канкрэтны характар. Па сваіх стылістычных асаблівасцях трэба яго залічыць да песеннай лірыкі. Характэрным прыёмам у вершы з'яўляецца паралелізм. Аўтар знаходзіць паралельныя, падобныя, аналагічныя моманты ў паводзінах чалавека і ў стане прыроды. Паралелізм асабліва моцна зазначаны ў двух першых строфах верша:

*Загудзі ты, вецер,*
*Скалыхні вярбіну;*
*Заспявай ты песню,*
*Мілая дзяўчына;*
*Заспявай, як птушка,*
*Летняю парою,*
*Каб было мне шчасна*
*Пасядзець з табою.*

З тэксту ясна відаць, што аўтар праводзіць пэўную аналогію паміж раскалыханай ветрам вярбою і дзяўчынай. Між дзяўчынай і расспяванай птушкай.

Яшчэ большая канкрэтызацыя пачуцця кахання выступае ў вершы „Дзяўчына". Твор гэты мае характар выразнай дэкларацыі кахання. У першай частцы твора аўтар паказвае рысы дзяўчыны, якія выклікаюць у яго сэрцы акрэсленыя пачуцці: у другой выяўляе трывогу, баючыся абыякавасці дзяўчыны; у трэцяй выходзіць з канкрэтнай прапановай: „стаць на векі другам!"

Верш „Дзяўчыне" мае цікавую арыгінальную структуру. Строфы тут складаюцца з трох радкоў. З тым, што рыфмуецца толькі першы радок з другім, а трэці радок мае характар чоткага, кароткага акорду, які па сутнасці паўтарае тое, што ўжо сказана ў папярэдніх радках:

*Міла ты мне, міла пекнатою дзіўнай,*
*Голасам пявучым ў песні пераліўнай*
*Міла ты мне, міла.*
*Блізка ты мне, блізка шчыраю душою,*
*Прагнымі хаценьмі, сілай маладою*
*Блізка ты мне, блізка.*
*Родна ты мне сэрцам, да жыцця завучым,*
*Смагай ласкі ўбраным, горда, смела б'ючым,*
*Родна ты мне, родна.*

Паўторы адных і тых жа слоў і фраз тут не выпадковыя. Яны паглыбляюць настрой верша, падкрэсліваюць сілу пачуцця паэта, упэўніваюць у яго дэтэрмінацыі і рашучасці.

Можам гаварыць аб элементах ідэалізацыі постаці дзяўчыны. У гэтым пахвальным гімне, праспяваным паэтам у чэсць дзяўчыны, выразна дамінуе захапленне духоўнымі якасцямі над захапленнем фізічнымі якасцямі. Па сутнасці не выступае фізічны сілуэт дзяўчыны. Затое многа сказана аб духоўным багацці, аб духоўных схільнасцях, аб прыгажосці і шчырасці сэрца. Дзякуючы такому характару паэтычнай ілюстрацыі верш пазбаўлены эратычных момантаў: з'яўляецца ён помнікам не жаночага цела, а жаночай душы.

З прыведзеных вершаў бачым, што ў каханні шукаў Гартны не драматычнага, а лагоднага, не нервовага, а спакойнага, не фізічнага, а духоўнага. Аднак, такая тэндэнцыя не акрэслівае наступных двух вершаў „Не спявай" і „Ноччу" — тут маем дачыненне з іншымі тэндэнцыямі.

